

# БЕЛАРУС

№444 • Травень 1997 г.
Год выд. 46

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## ЛУКАШЭНКА — ВОРАГ СВАБОДЫ СЛОВА

5 мая адзначаўся сусьветны дзень свабоды друку. Да гэтай даты міжнародныя арганізацыі прымяркавалі свае справаздачы і ацэнкі стану свабоды слова ў сьвеце. Адна з самых аўтарытэтных міжнародных арганізацыяў такога кшталту, Камітэт у абарону журналістаў у Нью Ёрку, выступіла з заявай, у якой, у ліку 10 самых зацятых ворагаў свабоды слова ў сьвеце упершыню названы і прэзыдэнт Беларусі. Амэрыканская дасьледчая арганізацыя «Фрыдам Гауз» — Дом свабоды — таксама залічыла сёлета Беларусь да катэгорыі дзяржаваў, дзе свабода прэсы цалкам альбо амаль цалкам адсутнічае.

Камітэт у абарону журналістаў — аўтарытэтная арганізацыя, якая дакумэнтуе і рэагуе на парушэньні свабоды прэсы ва ўсім сьвеце, вызначыла дзесятак ненавісьнікаў свабоды слова. Да ліку турэмшчыкаў духу аднесены лідэр алжырскіх фундаменталістаў, кіраўнікі Кубы Фідэль Кастра і Кітаю Цзян Цзэмінь, лідэры ваеннай хунты у Бірме і Нігерыі, дыктатар Інданэзіі, прэзыдэнт Албаніі Салі Берыша, які ўвёў цэнзуру і закрываў газэты, Негмэцін Эрбакан, прэмьер міністр Турцыі, дзе у турмах на пачатак году сядзелі 78 журналістаў. На шостым месцы у сусьветным сьпісе — прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка.

«Гэтыя дзесяць асобаў вызначаюцца сваёй няспыннай варожасьцю у адносінах да самога паняцьця свабоднай і незалежнай прэсы у сваіх краінах і ва ўсім сьвеце», — заявіў Вільям Орме, выканўчы дырэктар камітэту у абарону журналістаў. — «Гэтыя асобы, удзельнічалі ў сотнях парушэньняў свабоды слова, ад цэнзуры, запалохваньня і фізічных нападаў да зьняволеньня і нават забойства.»

Камітэт у абарону журналістаў заявіў, што прэзыдэнт Лукашэнка скарыстоўвае супраць прэсы тактыку савецкіх часоў, умацоўваючы сваю уладу уціскам незалежнай прэсы і публічнымі зьнявагамі журналістаў. Аляксандр Лукашэнка стаўся аб'етам асабліва вострай крытыкі Камітэту з прычыны высылкі зь Беларусі тэлежурналіста Аляксандра Ступнікава, якога абвінавацілі ў скажэньні інфармацыі.

«Фрыдам Гауз» — незалежная амэрыканская дасьледчая арганізацыя, апублікавала справаздачу пад назвай «Свабода прэсы 1997: эпідэмія законаў аб друку». У сваім штогадовым аглядзе гэтая арганізацыя вызначае краіны паводле наступных катэгрыяў: свабодныя, часткова свабодныя альбо несвабодныя у залежнасьці ад заканадаўства, ступені палітычнага і эканамічнага ціску на журналістаў, колькасьці і жорсткасьці парушэньняў супраць журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі. Паводле дасьледваньняў Беларусь аднесена, як і летась, да НЕ СВАБОДНЫХ. Сёлета у гэтай катэгорыі «Фрыдам Гауз» вылучыў асобную групу — горшыя з найгоршых — і туды таксма патрапіла Беларусь — разам з Албаніяй, Азэрбайджанам, усімі краінамі былой Югаславіі, Таджыкістанам, Туркменістанам, Узбекістанам, Кіргізстанам і Казахстанам.

Сёньня ўсе што карыстаюцца сеткай Інтэрнэту могуць адкрыць на сваім кампютары матэрыялы Камітэту у абарону журналістаў пад назовам europeweb.@cpj.org і прачытаць, напрыклад, агляд сытуацыі ў Беларусі.

У аглядзе згадваецца жорсткі зацiск прэсы падчас рэфэрэндуму, у тым ліку адключэньне сувязі Інтэрнэт, блакаваньне расейскіх тэлеканалаў, падаткавы і судовы шантаж незалежных выданьняў, карныя штрафы, цьмяная мова законаў, якія прадугледжваюць пакараньне за абразу кіраўніка дзяржавы, пагрозы і абвінавачаньні Мін. Зам. Справаў карэспандэнтам замежных выданьняў.

Усе гэтыя «дасягненьні» і спрычыніліся да таго, што прэзыдэнт А. Лукашэнка увайшоў у дзесятку самых злосных ненавісьнікаў свабоды слова ва ўсім сьвеце. Беларускі прэзыдэнт займае там шостае месца — *пакуль* шостае.

**Аляксандр Лукашук**

**Аб Самвыдаце ў Віцебску** — як альтэрнатыва прасьледаванай і выцісканай прэсе. Калі летась было забароненае распаўсюджаньне дэмакратычных газэтаў, тады ў Віцебску і ў іншых мясцох стварыліся незалежныя сыстэмы распаўсюджаньня забароненае прэсы. Мы, маладзейшыя, амаль цэлую зіму стараліся распаўсюдзіць дэмакратычную прэсу дзе маглі: на прыпынках, вакзалах і г.д. Нашая дзейнасьць дала вынік: улады, зразумеўшы, што распаўсюджаньне прэсы ня можа быць спыненае, дазволілі вярнуць дэмакратычныя газэты ў газэтныя кіёскі і «Саюздрук». Тыя газэты цяпер набыць можна, але наклад іх не вялікі, ды і кошт не па кішэні. Таму людзі часам іх набыць ня могуць. Аднак, не трацім надзеяў. **К.**

## ВІЦЕБСК У ЗМАГАНЬНІ: ВЕСТКІ ЗЬ ПЕРШАЙ РУКІ

Яшчэ за два тыдні да сьвята 25 Сакавіка, кіраўніцтва гарадзкой Рады БНФ падало заяву да ўладаў гораду на дазвол правядзеньня шэсьця й мітынгу ў дзень 23-га сакавіка. На зьдзіўленьне кіраўніцтва БНФ, улады дазвол далі, але значна зьмянілі маршрут шэсьця. Ня было дазволена ісьці па цэнтральнай вуліцы ды правесьці мітынг на пляцы перад ратушай, месца, дзе ў часе апошняе вайны мардавалі беларускіх патрыётаў. Улады-ж запрапанавалі дэманстрантам ісьці ходнікамі і па задворках, а мітынг зрабіць ля помніка У. Караткевічу ў парку. Але і гэткі варыянт дазволу нас зьдзівіў бо, упяршыню за два гады, улады Віцебску дазволілі апазыцыйнае мерапрыемства. Гэткае зьявішча можна тлумачыць дзьвумя прычынамі: відаць улады хацелі, каб менш людзей паехала ў Менск на плянаваную там дэманстрацыю, а можа і таму, что новы старшыня гораду мае больш лібэральны падыход.

Нашыя сьціплыя магчымасьці дазволілі нам выдаць толькі 5 тысячаў заклікаў. І тым ня менш, на вызначаны намі зборны пункт для дэманстрацыі, 23-га сакавіка прыехала шмат міліцыі і аўтобус з «АМОНАМ». Незадоўга зьявіліся і кіраўнікі Віцебскага БНФ: старшыня Шалухін і сябы Рады Паўлаў і Янушкоўскі. Быў там і аўтар гэтае зацемкі. Народ зьбіраўся з усіх напрамкаў. Міліцыя спрабавала ўгаварваць падыходзячых, каб яны разыходзіліся, ішлі дамоў. Але ўгаворы ня дзейнічалі. Дэманстранты пачалі раскручваць сьцягі ды разгортваць плякаты. Юнакі з маладзёжнай арганізацыі БНФ выставілі на чало калёны бел-чырвона-белыя стужкі. Калёна рушыла, а па дарозе да яе ўсё далучаліся новыя ўдзельнікі. Да помніка У. Караткевічу дайшло ўжо некалькі сотняў дэманстрантаў. На мітынгу выступаў Паўлаў ад БНФ, ды прачытаныя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі і іншыя. У часе мітынгу ня сьціхала магутнае «Жыве Беларусь». Гучэлі выступы супраць дыктатуры Лукашэнкі, бард Савельеў-Рынкевіч сьпяваў беларускія песні, а на заканчэньне мітынгу ўсе з уздымам прасьпявалі малітву «Магутны Божа». Адзначэньне Сакавіка заўважалася і ў іншых мясцох: на унівэрсытэце, прыкладам, шмат студэнтаў абрамавалі галовы бел-чырвона-белымі стужкамі і з гэткім убраньнем хадзілі цэлы дзень.

**К.**

## 25 САКАВІКА Ў ПАРЫЖЫ

Адзначэньне Дня Волі ў Парыжы сёлета адбылося 30 сакавіка. У сьціплай грамадзе, у памешканьні нашага цэнтру на вул. Гравіе, дзе за колькі дзесяціґодздзяў адбылося гэтулькі зборак, беларусы Парыжу і ваколіцаў абмяняліся думкамі ды адзначылі вялікі дзень беларускае гісторыі. Сустрэча, прысьвечаная Сакавіку, пачалася з агульнае дыскусіі аб сучасным стане на Беларусі. Ды як і выявілася — сёньняшні дзень на Бацькаўшчыне, найбольш турбус беларускую дыяспару. Аднадушна усе пагадзіліся на паглядзе, што Беларускай Дзяржаве пагражае небясьпека ліквідацыі, а сытуацыя палітычная на бацькаўшчыне — небясьпечная для Эўропы. Абаснавана было выказана, што нідзе ў сьвеце гэткага не здараецца, што выбраны кіраўнік дзяржавы робіць усякія намаганьні й крокі, каб прадаць Беларусь Расеі. Было ўдакладнена, что слова «прадаць» не адпаведнае — трэба казаць да выступаць у друку, акрасьляючы правільна сытуацыю: сёньняшні прэзыдэнт Беларусі, аддас Беларусь расейскаму акупанту. У выступах было прыгадана й пару асноўных момантаў зь гісторыі Беларусі: як Расея рабавала Беларусь у мінулым, як ганьбілася беларуская культура, вывозіліся людзі, нішчыліся гарады. Малы нацыянальны патэнцыял Беларусі сёньня — вынік двухсотгадовага расейскага панаваньня над Беларусяй. Тысячы а тысячы беларусаў згінулі ў Расеі, а іх магілы не адзначаныя. І толькі Курапаты сёньня крыху нагадваюць нам, аб злачынствах акупанта. Былі успомненыя ды ўшанаваныя таксама і тыя рэ-эмігранты з Францыі ў Беларусь, палеглыя патрыёты в.п. Касьцюк і Філістовіч. Абагульнена было пагвалчаньне людзкіх правоў на Беларусі, парушэньні канстытуцыі, фальсыфікацыя гісторыі Беларусі ды узмоцненая русыфікацыя — што ўлілося ў фармуляваньне пагляду беларускае дыяспары у Францыі на сытуацыю на Бацькаўшчыне.

Але раўналегла было падкрэслена, што народная памяць даўгатрывалая, нанесеныя за пару гадоў прэзыдэнтам Лукашэнкам крыўды белару-

*(Працяг на бал. 2)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
«БЕЛАРУС» — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

## У МЭЛЬБУРНЕ, АЎСТРАЛІЯ

25 сакавіка сёлета беларусы Мельбурну і ваколіцаў сабраліся ў Царкву на Сьвятую Літургію. Царква напоўнілася вернікамі. Пасьля Сьв. Літургіі адбыўся малебен за Беларускі народ. а. А. Кулакоўскі, настаяцель прыходу БАПЦ, сказаў да прысутных вельмі пачувальную казань.

Пасьля малебну у царкоўнай залі адбыўся канцэрт. Хор Каліна прасьпяваў колькі беларускіх народных песьняў пад акампанімэнт гітараў. Сьпявачкі былі апранутыя у прыгожую беларускую нацыянальную вышываную вопратку.

А 3-цяй гадзіне усе грамадой паехалі да месца дзе у першы раз на аўстралійскай зямлі будзе падымацца наш родны бел-чырвона-белы сьцяг, ды лунаць сярод сьцягоў іншых, у тым ліку і аўстралійскіх абарыгенаў.

На гарадзкую плошчу зьехалася беларуская грамада у вялікай колькасьці, палова у нацыянальных строях, з плякатам у ангельскай мове з надпісам Беларусь ды з Гербам Пагоня.

Мэр гораду Кобург павітаў прысутных ды зазначыў, што дзень незалежнасьці Грэцыі спадае зь Беларускім днём, то будзе падымацца і іх сьцяг. Паднімаючы беларускі сьцяг усе разам пачалі сьпяваць наш гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Пару слоў у ангельскай мове сказаў старшыня Фэдэральнай Рады сп. А. Груша. Усе гэта зрабіла на мэра вялікае ураджаньня, як зазначыў, што у будучыні хоча стала маць беларускіх прадстаўнікоў у этнічных імпрэзах, на што далі згоду сябры Управы Беларускага Цэнтральнага Камітэту на штат Вікторыя сп-ры А. Груша, а. Александар Грыцук і Алег Шнэк.

* * *

У дзень 25-га сакавіка Беларускі Цэнтральны Камітэт наладзіў Урачыстую Акадэмію, прысьвечаную 79-ым Угодкам Незалежнасьці Беларусі у Беларускім Народным Доме. Старшыня мясцовай арганізацыі Б.Ц. Камітэту сп-р Паўла Гуз адчыніў урачыстую Акадэмію, прысьвечаную 79-ым Угодкам ды зачытаў надасланыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў. Даклад на тэму дня прачытаў сп. А. Шнэк. У мастацкай частцы сп-ня Вера Шайпак прадэклямавала верш Віктара Новіка «Жальба» (Да выніку рэфэрэндуму), сп. Аўген Груша прадэкламаваў верш «Пагоня», які быў надрукаваны у 1920 г. у Вільні.

Паўла Гуз сказаў прынагодна пару слоў, што нашыя высілкі за 50 гадоў не прапалі, а даюць памысны ўсход, што мы горда нясём наш кліч Жыве Беларусь. Ён прасіў ўсіх прысутных адсьпяваць наш родны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Сьвяткаваньне скончылася супольным пачастункам і бяседай.

**Паўлюк Дуброўскі**

## У ПЭРЦЭ, АЎСТРАЛІЯ

79-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у Заходняй Аўстраліі, беларусы адзначылі 22-га сакавіка. Яшчэ задоўга да вызначанага часу на сьвяткаваньне ў залю Беларускага Народнага Дому пачалі прыбываць сябры Б.А. у З.А. і госьці. Дакладна а гадзіне першай старшыня Б.А. Міхась Раецкі малодшы прывітаў прысутных і ў кароткіх словах расказаў аб важнасьці сёньняшняга сьвята. Сьвяткаваньне было распачатае адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Затым былі прачытаныя дасланыя з нагоды 79-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР прывітаньні: ад Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, Беларускага Цэнтральнага Камітэту у Мэльбурне, Беларускага Аб'еднаньня Паўднёвай Аўстраліі, Беларускага Кардынацыйнага Камітэту Канады і з Бацькаўшчыны ад Грамадзка Навукова-Аналітычнага Цэнтру «Беларуская Пэрпэктыва». З дакладамі на тэму 25-га Сакавіка выступалі: па-ангельску М. Раецкі малодшы і Р.М. па-беларуску.

Пасьля афіцыйнай часткі быў наладжаны пачастунак у часе якога гутарылі пераважна аб палажэньні на Бацькаўшчыне. Пры нагодзе была праведзена зборка на «Дар 25-га Сакавіка.» За падрыхтаваньне пачастунку выказваем падзяку сп-ням М. і З. Ёлаб ды Марыі Мароз.

## 25 САКАВІКА Ў ПАРЫЖЫ

*(Працяг з бал. 1)*

скай нацыі ня будуць забытыя. Распалены агонь супраць беларускасьці загорне і ініцыятара і «праўдыра» гэтае хвалі, а народ нанесных крыўдаў не даруе. Помста народная прыйдзе і маладыя патрыёты узды-муць гонар Беларусі.

Наагул жа грамада беларуская ў Францыі выказалася за актывізацыю працы ў гэты цяжкі для Бацькаўшчыны пэрыяд.

**Жыве Беларусь!**
**Прысутны**

## ВОДГУКІ 25-ГА САКАВІКА У САЎТ РЫВЭР, Н.ДЖ.

У суботу 22 сакавіка перад будынкам Саўтрывэрскае Гарадзкое Управы, у прысутнасьці мэра Томаса Тото, родных гораду і беларускай дэлегацыі быў падняты беларускі сьцяг. Мэр горада прачытаў праклямацыю і апавясьціў Дзень 25 сакавіка беларускім днём у Саўт Рывэры. Па прынятай ўжо традыцыі ў залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру адбыўся пачастунак з удзелам мэра, радных і прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў.

У нядзелю 23 сакавіка ў царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай, пасьля Сьвятое Літургіі, а. Мячыславам Брынкевічам быў адслужаны малебен за беларускі народ. У часе малебна ганаровую варту пры сьцягах трымалі: інж. Міхась Бахар, Юрка Сасноўскі і Мікалай Касьцюк.

А 3-ай гадзіне, у залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая Акадэмія якую адчыніх інж Міхась Бахар. Глыбоказьмястоўны рэфэрат прачытаў старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч. На сьвяткаваньні прысутнічалі радныя гораду. Радны Робэрт Крэнцэль ад імя мэра гораду перадаў самае шчырае прывітаньне і прачытаў праклямацыю. Былі прачытаныя шматлікія пісьмовыя прывітаньні. Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня прывітаў сп. Янка Запруднік.

У мастацкай частцы выступіў паэт Міхась Кавыль. Браты Зьміцер і Алесь Яўтуховічы далі прыгожы канцэрт. Алесь — знакаміты скрыпач праслухалі выканаў паляньюзы Клеафаса Агінскага. Акампаніраваў яму яговы брат Зьміцер. Браты выканалі цэлы шэраг беларускіх народных песьняў і песьняў на словы беларускіх паэтаў напісаных кампазытарам Зьмітраком.

Вельмі прыемнай неспадзеўкайц быў выступ нашых ведамых беларускіх артыстаў: Валянцыны Пархоменка, Алеся Казака і іх адоранай музычны дачушкі Олі. Іх выступ прайшоў з вялікім посьпехам.

На заканчэньне сп. М. Бахар падзякаваў усім за прысутнасьць і быў адпяяны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»..

## Ў РЫЧМАНД ГІЛ

У нядзелю 6 красавіка сёлета Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку адзначала 79-ю гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Сьвяткаваньне адбывалася ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў г. Рычманд-Гіле, прыгарадзе Нью Ёрку. Зраньня была аслужаная сьв. Літургія. На прыканцы службы, настаяцель парафіі, айцец Грэгары сказаў коратка аб абвешчаньні БНР, палітычных імкненьнях і жыцьці беларускага народу, яговыя ня лёгкія крокі на шляху да лепшае будучыні ды цяжкое жыцьцё пры сёньняшняй уладзе.

Усьлед, айцац Грэгары адправіў малебен за беларускі народ. У часе багаслужэньня беларускія вэтэраны несьлі ганаровую варту з нацыянальнымі сьцягамі. Пасьля малебну было адсьпяванае многія лета ды хор выканаў беларускі нацыянальны царкоўны гімн «Магутны Божа».

Урачыстая акадэмія прысьвечаная Дню Волі адбылася ў прыцаркоўнай залі. Акадэмія была адчыненая нацыянальным беларускім гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а затым сп. Васіль Шчэцька прывітаў шматлікіх гасьцей і парафіянаў зь вялікім беларускім сьвятам. Рэфэрат прысьвечаны Дню Незалежнасьці прачытала сп-на Ала Кузьміцкая (Шчэцька). Дакладчыца, ад гістарычнага нарысу шляху да абвешчаньня БНР, перайшла да сяньняшняга палажэньня на Беларусі, азначыўшы яго жахлівым. Сп-ня А. Шчэцька падкрэсьліла, што з глездзішча палітычнага, на бацькаўшчыне адбыліся нячуваныя пагвалчаньні і правоў чалавека і канстытуцыі: акт узьяднаньня Беларусі з Расеяй быў акрэсьлены як ганебны. А гэтым актам, вяла дакладчыца, Расея із сваім агентам Лукашэнкам нахабна давяла свае імпэрыялістычныя намеры, каб далей выкарыстоўваць Беларусь для сваіх дзяржаўніцка-захопніцкіх мэтаў.

**Васіль Шчэцька**

## БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У АДЭЛЯЙДЗЕ (ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ)

Сёлета адзначэньне Дня Беларускае Незалежнасьці ў Адэляйдзе адбылося ў нядзелю 23 сакавіка і прайшло вельмі ўрачыста. Сьвяткаваньне распачалося Божай Службай і Малебнам адслужаным шаноўным айцом пратаерэям Міхасём Бурносам у беларускай мове. Урачыстая акадэмія адбывалася ў прыцаркоўнай залі, дзе гэтаксама была падрыхтаваная жанчынамі смачная пачостка. Спадар Мікалай Калесьнікові́ч, старшыня Беларускага Аб'еднаньня, распачынаючы акадэмію, напрасіў прысутных уставаньнем ушанаваць Вялікі Акт 25 Сакавіка ды прапяяць беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». У рэфэраце сп. Старшыня, адзначыў найбольшыя вехі-падзеі, якія прывялі да акту 25 сакавіка ды прачытаў надасланыя прывітаньні ад беларускіх суполак. У гэтым часе айцец Міхась блаславіў ежу і распачаўся невялікі банкет, які зацягнуўся досыць даўгавата. У прыемным настроі з ахвотай далей працаваць для беларускае справы прысутныя разьяжджаліся ды дамаўляліся на наступныя сустрэчы.

**І. Акавіты**

## ПЕРАВЫБАРЫ Ў БАЗА (Нью Ёрк)

8 сакавіка ў Фундацыі П. Крэчэўскага адбыўся перавыбарчы сход Нью Ёркскага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Была заслухана й адзінагалосна зацьверджаная справаздача старшыні сп. Аляксандра Міцкевіча за доўгі пэрыяд дзейнасьці Аддзелу пад яговым кіраўніцтвам.

*(Працяг на б. 4)*

Шчыра вітаем дарагога сябру

**ВІТАЎТА КІПЕЛЯ**

шматгадовага нястмонага і плённага працаўніка
на грамадзкай, культурнай і палітычнай ніве,
зь **70**-мі ўгодкамі жыцьця, якія спаўняюцца ў травені сёлета,
ды жадаем добрага здароўя і далейшых удачаў
у працы на дабро Бацькаўшчыне

***Сябры і супрацоўнікі зь Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і рэдкалегіі газэты «Беларус»***

# РЭХА 25–САКАВІКА

## У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Адзначэньне Дня Беларускае Незалежнасьці адбылося ў нядзелю 6-га красавіка. Малебен за Беларускі Народ, як і нядзельная літургія адбываліся ў Кліўлендзе у царкве БАПЦ, Сьв. Жыровіцкае Маці. Айцец Міхась Страпко пасьля службы сказаў выдатную казань, прысьвечаную сьвяту, узвышана сьпяваў хор, а прадстаўнікі вэтэранскіх і грамадзкіх арганізацыяў трымалі ганаровую варту з сьцягамі. У царкве было ня мала і гасьцей як з блізкіх гарадкоў, гэтак і з далёкіх мясцовасьцяў і штатаў: Мішыгану, Іліной ды Вісконсіну.

Урачыстасьць у Грамадзкім Цэнтры «Полацк» пачалася а гадзіне першай папаўдні. Былі ўнесеныя нацыянальныя сьцягі, заля была густоўна упрыгожаная. Старшыня БАЗА Аддзелу Кліўленд, спадар Янка Ханенка, адчыняючы ўрачыстасьць падкрэсьліў, што ўшаноўваючы Вялікі Акт 25 Сакавіка, беларуская Амэрыка добра здае справу з таго, што на Бацькаўшчыне насталі цяжкія часы: беларускае адраджэньне запаволілася, умацоўваецца дыктатура, адбываюцца арышты, пагвалчаньні правоў асобы, уведзеная цэнзура. Аднак, казаў сп. Ханенка, народ пачынае ўздымацца — мы сьведкі, як успыхваюць дэманстрацыі, тысячы людзей выходзяць пратэставаць.

Галоўны даклад аб Сакавіку прачытаў госьць, сп. Мікола Прускі з штату Мішыган. Сп. Прускі акрэсьліў шлях нацыянальнага руху да 25 сакавіка, ды падрабязна сыпніўся на падзеях апошніх гадоў, ды прычынах чаму дэмакратыя не пусьціла трывалых каранёў на Беларусі. І тым ня менш, сказаў дакладчык, спыняць нацыянальнае дзейнасьці нельга, наадварот мы ў ЗША, наагул на захадзе павінны дзеіць зь нязьмяшнальнай энэргіяй.

«Беларускі народ», казаў Мікола Прускі, перажыў 200 гадовае панаваньне Расеі, вытрываў і, бясспрэчна вытрывае і сучасныя выпрабаваньні. Заданьне-ж беларусаў у Вольным Сьвеце Бацькаўшчыне дапамагаць! Гэтак закончыў сваё выступленьне сп. Мікола Прускі.

Наступна выступіў д-р Я. Сажыч, старшыня Рады БНР. Старшыня Рады паведаміў, што БНР актывізуе сваю дзейнасьць ды рыхтуецца да чарговае сэсіі Рады, якая мае адбыцца сёлета.

Былі зачытаныя прывітаньні як з дыяспары, гэтак і з Бацькаўшчыны. Па перакусцы, надзвычай смачнай, зрыхтаванай жаноцкім згуртаваньнем (за што жанчыны атрымалі бурную авацыю!) адбылася мастацкая праграма. Выступаў хор «Васілёк» пад акампаніямэнт Аляксандра Яноўскага і Федзі Паўлаўца. Выступленьні і музыкантаў і хору захапілі аўдыторыю, а яна ўдзячвала даўгімі апладысмэнтамі.

Адзначэньне Дня Беларускае Незалежнасьці закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**К.П.**

## У ЧЫКАГА

Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада у Чыкага ушанавала Сакавіковыя угодкі сьвяточнай урачыстасьцю, якая адбылася 6-га красавіка. Урачыстасьць гістарычнага Дня Незалежнасьці распачалася малебнам за Беларускі Народ у Праваслаўнай царкве «Сьв. Юрыя». У часе малебну вэтэраны Пётар Нягода і Андрэй Гушча трымалі Амэрыканскі і Бел-Чырвона-Белы дзяржаўныя сьцягі. Малебен закончыўся магутным сьпевам мнагалецьця і патрыятычным словам Настаяцеля парафіі а. Пратаіерэя Дзімітра на тэму апошніх падзеяў на Бацькаўшчыне.

Прадоўжаньне праграмы адбылося у залі пры парафіі, якую адкрыў Старшыня БАНРады М. Каленік, ды перадаў функцыю вядзеньня праграмы Сакратару Рады.

У праграму уваходзіла: адчытаньне сьвяточных віншаваньняў, рэфэрат і мастацкая частка, якая складалася із музычных твораў паводле нядаўна адшуканага т.зв. «Полацкага сшытка» пэрыяду 17-га стагодьдзя, дэклямацыі і выстаўкі малюнкаў мастака Юзэфа Пучынскага, які працаваў у Менску, а цяпер жыве у Чыкага.

Праклямацыю ад Губэрнатара Джыма Эдгара зачытаў Пётр Пуп, а беларускамоўныя віншаваньні зачытаў М. Л-кін. Зьмест усіх віншаваньняў зводзіўся ды трывогі за падзеі у Беларусі, дзе замаскавана, ці зусім няпрыхована цяперашнія улады забараняюць усё тое, што было зроблена у сфэры станаўленьня сувэрэннай дэмакратычнай Беларускай дзяржавы за першых пару гадоў пасьля распаду Савецкага Саюзу.

Рэфэрат прачытаў сп. Ванкарэм Нікіфаровіч. У сваім дакладзе прэлегент ахапіў больш чым вяковы пэрыяд змаганьня Беларусаў за лепшы дабрабыт і народную нацыянальную свабоду — сваю дэмкаратычнаю дзяржаву, якая паўстала 25-га Сакавіка 1918 г., ды паўторна 27-га ліпеня 1990 г.

З прыходам да улады прэзыдэнта А. Лукашэнкі забараняюцца газэты дэмакратычных поглядаў, абмяжоўваецца ужываньне беларускай дзяржаўнай мовы у сувэраннай Рэспублícы Беларусь, сродкі масавай інфармацыі тэлевізар і радыё сталіся манаполіяй структур улады Прэзыдэнта, брутальнымі фізычнымі мэтадамі разганяюцца мірныя дэманстрацыі іншадумцаў, страхам умацоўваецца палітычная дыктатура, грамадзтва падзяляецца на варожыя супроцьлежныя палітычныя полюсы мірных жыхароў Беларусі.

У мастацкай праграме выступіла група артыстаў із складу папулярнага у Беларусі Мастацкага ансамблю «Харошкі», якія цяпер выступаюць як мастацкі Ансамбаль «Забава» і часова пражываюць у Чыкага. Перад выступам артыстаў а. Дзімітры паінфармаваў прысутных пра «Полацкі сшытак», яго знаходку у сьвятыні Полацку з запісамі нотаў музычных твораў 17-га стагодзьдзя цудоўнай музыкі, якую выканалі таленавітыя артысты «Забавы». Артысты прасьпявалі некалькі беларускіх народных песьняў. Мастацкую частку праграмы закончыў М. Латушкін дэклямацыяй «Прарока» Я. Купалы. Пасьля падзякаваў усім тым, хто прылажыўся да арганізацыі сёньняшняга сьвяткаваньня: а. Дзімітрыю, рэдактару В. Нікіфаровічу, артыстам за чароўную музыку і сьпевы, жанчынам, якія падрыхтавалі смачны гарачы абед, як і усім прысутным на сьвяткаваньні.

Сьвяткаваньне закончылася агульным адсьпяваньням гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...!»

**М. Латушкін**

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Акрамя арыгінальных твораў, прозы, паэзіі, створаных на эміграцыі, маем немалы набытак і ў галіне перакладніцкай. І гэта ня толькі рэлігійныя творы, клясыка. У перакладах мы можам назваць і творы Оскара Ўальда. Р. Кіплінга, Дж. Свіфта, Г. Гаўптмана, Э. Паўнда і інш, чые творы былі ўзноўлены па-беларуску ды выдадзеныя беларускімі супалкамі. І, натуральна, вершы ўкраінскіх ды польскіх паэтаў, пераклады якіх можна сустрэць бадай што ў любым эміграцкім беларускім выданьні. Адзін з такіх твораў — верш Юзэфа Масьлінскага ў перакладзе Тодара Дубровы — мы й друкуем сёньня.*

### Беларусь успамінаў

Увосені
праз лістападавы вогкі хлюпат
крокаў
цікаецца да цябе забабонны
краявід —
Беларусь успамінаў.
Ізноў гэта
далёкія павевы лятуценьняў,
даліны сярэбраныя зеляні ды іржы,
дзе язьмін, і зораў вагні, і
птушыныя лёты,
і скорае, пералётнае шчасьце,
дзень у дзень,
ноч у ноч,
галоўная нота.
З пацерамі й дымам кадзільным
міналі траўні,
бэзам адцьвіла Беларусь.
У гэтым ужо пах аеру і балота,
і босыя пяты на сенакосах,
і тарахценьні вазоў на
бульбяньнях,
і тое,
што калі дзень пра сонца раптам
забываўся, —
страшны Бог грукацеў па небе
грымотамі.
Жняяркі — вылі,
галасілі жалейкі,
вечар кусты й дрэвы агнём
запаляў,
жабы горла палоскалі, а ў начы
зоры на вецьці расьлі
дый Птушыны Шлях жываплотам
разьцьвілым на небе мігціць.
Над местам,
панад плахтамі мокрых дамоў
гудуць жорны,
жвір і грукат капытоў,
успаміны зьліваюцца потам бы
коні,
карагод чараў Палярная Зорка
вядзе,
а тады, дзіцянё адзіноты,
трапеча ціхі крык, анатэма
скавытаньнем пачатая
й кроплямі твайго поту зьвініць
цішыня,
чарамі працяты стаіш,
занямелую думку ловіш, чытаеш
шыфр:
гэта край,
гэта язьміну шантаж,
гэта на крэйдавых шчоках
цалунак нясьцертнаю плямай.

## СТ. ТАМАРА НА БЕЛАРУСІ

Выстава Стагановіч Тамары «Амэрыка — Мая Амэрыка» прадаўжаецца зь вялікім посьпехам у Беларусі.

Да сяньня: Менск, Горадня, Ліда.

У студзені, лютым і сакавіку 1997 г. яна была выстаўленая ў Полацку, у Музэі Беларускага Кнігадрукаваньня.

Выставу спансаруе Амэрыканская Амбасада ў Менску.

Ліст Тамары Стагановіч да Палачанаў, на беларускай мове, быў прачытаны падчас адкрыцьця выставы, прадстаўніком Амэрыканскае Амбасады спадарыняй Джанэт Дэмірэй.

# СЬВ. ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА ПРОТАС

Аляксандра, звалі яе Саша, нарадзілася 20-га лютага 1900 году ў фальварку Забалацьце на Дзісьненшчыне. У тыя царскія часы здабываньне асьветы для моладзі было зьвязанае зь вялікімі цяжкасьцямі. Саша пасьля заканчэньня парафіяльнае школы паступіла на вучобу ў школу настаўнікаў у Полацку. У час першай сусьветнай вайны бацькі былі змушаныя пакінуць сваё Забалацьце і як бежанцы апынуліся ў Расеі.

У бежанства Саша працягвала сваю вучобу ў Суздалі. Па заканчэньні вайны сям'я вярнулася дамоў у Забалацьце, дзе палякі пачыналі наводзіць свае акупацыйныя парадкі. У 1920-ых гадох, калі ў Заходняй Беларусі дзейнічала Грамада, Саша працавала сакратаркай ў дваюроднага брата Пётры Мятлы, ведамага дзеяча Грамады. Гэта яе праца потым сталася перашкодай у атрыманьні настаўніцкай працы ў школе. Пасьля акупацыі Заходняй Беларусі ў верасьні 1939 году савецкай арміяй, Саша адразу пачала працаваць настаўніцай у беларускай школе. Працу гэту працягвала да 1944 году, калі ўся сям'я пакідае свой прыгожы фальварак і выяжджае на захад. Не глядзечы на цяжкасьці й перашкоды дабіраюцца ў аўстрыйскі Тыроль. Там, у гарадку Куфштэйн, арганізуецца лягер для ўцекачоў, у якім і сям'я Пратасоў пасяляецца. На долю Сашы выпадае абавязак даглядаць бацькоў, якія ўжо па сваёй старасьці патрабавалі добрай апекі. У гэтым лагеры было некалькі беларускіх сям'яў зь дзецьмі школьнага ўзросту. Саша сама арганізуе навучаньне гэтых дзяцей — робіць маленькую беларускую школку. З пачаткам 1950 году пачынаецца пераезд за акіян. Сястра Анна з мужам і брат Аўген пераяжджаюцьл у З.Ш.А., а брат Санька выяжджае ў Канаду. Пасьля добрых і доўгіх захадаў і Саша з бацькамі прыяжджае ў З.Ш.А. Асяляюцца ў Стамфордзе, штат Канэктыкат. Саша ўладжваецца на працу. Пасьля сьмерці бацькоў Саша выяжджае ў Канаду да брата Санькі. Пасьля сьмерці брата Санькі жыве надалей ў Канадзе ў пляменіка Алеся, сына Санькі. Апошні год свайго жыцьця жыла ў доме для старых, ў горадзе Кічэнэр, Антарыё. Дня 4-а сакавіка 1997 году у гэтым доме й адыйшла ў вечнасьць. Дзякуючы стараньням пляменікаў Аўгена Кабяка, Алеся Протаса і Валодзі Протаса пакойная была прывезеная ў Канады ў З.Ш.А. і пахаваная на могілках «Вудлэнд» у Стамфордзе, Канэктыкат, дзе пахаваныя яе бацькі і брат Аўген. Вечная ей памяць.

**В.К.**

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА СЕНЬКО

Нарадзіўся 21 ліпеня 1918 года ў мястэчку Новы Сьвержань. Памёр 2 лютага 1997 г. Пахаваны ў Ігэль, каля Трыера, Нямеччына. Пакінуў у суме жонку Анну і дачок: Лізу, Зосю, Тамару, Барбару и двое унукаў. Вучыўся ў навасьвержанскай пачатковай школе, а пасьля ў стаўпцоўскай гімназіі. Паступіў у віленскі унівэрсытэт імя Сьцяпана Баторага. Быў сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу. Скончыў школу афіцэраў рэзэрвы ў Замброве і быў прыпісаны да баранавіцкага палку пяхоты. Падчас савецкай ўлады быў настаўнікам. З прыходам немцаў на Беларусь прымаў самы актыўны ўдзел у тагачасным беларускім нацыянальным жыцьці.

На эміграцыі працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў «Службе досьледу Усходняе Эўропы». Быў настаўнікам у беларускай гімназіі ў лягеры Ватэнштэт, а пасьля дырэктарам і кіраўнікам лягеру да канца яго існаваньня. Быў сябрам Беларускага Вызвольнага Фронту, рэдагаваў газэту «Жыве Беларусь», а пасьля выдаваў «Інфармацыйныя сшыткі» у нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у арміі НАТО і ў ранзе маёра вышаў на пэнсыю.

Вечная яму памяць

# ПЕРАВЫБОРЫ

*(Працяг з б. 2)*

Важным пунктам праграмы сходу былі выбары новага кіраўніцтва арганізацыі. Большасьцю галасоў сярод некалькіх кандыдатаў быў абраны старшынём сп. Марат Клакоцкі. Адзінагалосна гэтаксама была ўхвалена прапанова абраць сп. А. Міцкевіча ганаровым старшынём Адзьдзелу, улічваючы ягоную шматгадовую працу й пэрсанальны ўклад у разьвіцьцё адзьдзела. Удзельнікі сходу выказалі спадзяваньне, што сп. А. Міцкевіч недалей будзе актыўна працаваць і дапамагаць новаму кіраўніцтву арганізацыі.

Галасаваньнем быў зацьверджаны новы склад Управы адзьдзелу, у якую былі абраныя сп-ні В. Бартуль, А. Шчэцька, сп. С. Мурог ды інш.

З інфармацыяй пра сытуацыю ў Беларусі выступіў нядаўна прыбылы з Эўропы лідар БНФ сп. З. Пазьняк. Ён жа адказаў на пытаньні прысутных. З шырэйшымі рэфлексыямі пра сытуацыю ў Беларусі й арганізацыйныя пытаньні працы эміграцыі выступіў старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. Антон Шукелайць.

Сход зацьвердзіў дэлегатаў Нью Ёркскага Адзьдзелу на будучы Кангрэс БАЗА, які мае адбыцца ўвосені.

Ёсьць падставы спадзявацца, што вынікам абнаўленьня кіраўніцтва Нью Ёркскага Адьдзелу БАЗА й росту колькасьці яго сяброў у апошнем часе будзе актывізацыя беларускае арганізацыйнае працы ў Нью Ёрку.

**Ю. Васілеўскі**

## *ЯК ДЫКТАТАР ДБАЕ ПРА НАРОД...*

Летась выслаў я тры харчавыя пачкі да сваякоў у Беларусь. Канадыйская украінская кампанія «Карпаты», што з Львову дастаўляла замоўленыя харчы, паведаміла мяне, што не магла іх даставіць маім сваяком бо на мяжы Беларусі мытнікі іх затрымалі. Мне былі зьвернутыя кошты замоўленых харчоў.

Прайшло больш паўгоду часу й сёлета 11-га лютага кампанія «Карпаты» паведаміла мяне, як і іншых сваіх клiентаў, што памагалі грамадзянам Рэспублікі Беларусь, што могуць узнавіць перасылку помачы.

11-га лютага я замовіў і заплаціў за дзьве пачкі харчоў. Атрымаў зь Беларусі ліст, што адна пачка да іх дайшла, а 7-га красавіка давсдаўся, што другой пачкі сваякі не атрымалі. На маё запытаньне ў фірме «Карпаты» даведаўся, што дзьве пасылкі везьлі на дзьвёх асобных аўтамашынах. На мяжы Рэспублікі Беларусь, адну з гэтых аўтамашынаў мытнікі не прапусьцілі й яна мусіла вярнуцца назад у Львоў. Кампанія «Карпаты» абяцала яшчэ раз спрабаваць тую пачку даставіць сваяком.

Гэта факты, мною праверяныя. Такое здарылася ня толькі ў мяне, але і ў іншых нашых суродзічаў з Канады, што памагаюць сваім сваяком, якія жывуць у Беларусі пад уладай дыктатара, які хваліцца, што ён дбае пра грамадзянаў РБ.

Мяркую, што пра гэта нельга маўчаць!

**К. Акула**

**Дарагі «Беларус»!**

Упэўнены, што Вы атрымваеце шмат карэспандэнцыі зь Беларусі, але ці зьвярнулі Вы ўвагу на той факт, што на шмат якіх паштовых штэмпелях пазьнікалі беларускія назовы мясцовасьцяў, а засталіся толькі расейскія? Гэткага ня бывала і раней у «старыя» камуністычныя часы. Афіцыйшчына заўсёды была двумоўная.

Праз газэту, хачу спытаць: ці ў гэткай справе можа было-б зьвярнуцца ў адпаведныя праваахоўчыя інстытуцыі, з скаргай, што прэзыдэнтам і ягонай адміністрацыяй праводзіцца дыскрымінацыйная, незаконная палітыка ў дачыненьні да беларускае мовы?

**Шчыра адданы, Ваш чытач
В. Русак з Аўстраліі**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя інфармацыі і газэтныя выразкі: К. Акулу, І. і Я. Сурвіллам, др. Ю. Кіпелю, др-у і В. Рамукам, Г. Шэйпаку, Б. Даніловічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, К. Вераб'ю, А. Кіпель, Р. Завістовічу, А. Маркевічу, З. Пазьняку, С. Трыгубовічу, А. Міцкевічу, М. Рагулю, В. Хмялеўскаму, К. Валошыну, Л. Шыманцу, М. Латушкіну, В. Акавітаму, А. Мацукевічу, В. Цару, Л. Шураку, Ю. Азарку, К. Шаткову, Л. Камунку, А. Акулічу, М. Раецкаму, В. Русаку (Аўстралія).



# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Фінансавая справаздача за сакавік 1997**

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | ам. дал. 100 |
| І. Гайдэль | 100 |
| В. Плескач | 100 |
| Н. Сіцько | 50 |
| Г. Касоўскі | 40 |
| Л. Ячнік | 35 |
| С. Мажэйка | 30 |
| Г. Скурат | 30 |
| Р. Галяк (заміж кветак на магілу) | 20 |
| Н. Касмовіч | 20 |

*Ліста ад сп. М. Сенко з Англіі*

| | |
|---|---|
| Т. Дамінік | бр. фут. 40 |
| М. Швэдзюк | 25 |
| Хв. Кажаневіч | 25 |
| П. Шыркоўскі | 30 |
| С. Будкевіч | 30 |
| А. Якубовіч | 20 |
| А. Ражанец | 25 |
| М. Баяроўскі | 25 |
| Л. Міхалюк | 40 |

**Прыслана беспасярэдне ў рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| Ст. Тамара | ам. дал. 15 |
| І. Сядура | 50 |
| К. Калоша (са спадчыны І. Каханоўскай) | 100 |
| К. Акула | 50 |

**Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| Л. Стагановіч | ам. дал. 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| М. Галоўка | 50 |
| В. Кажан | 20 |
| К. Крапотка | 10 |
| У. Малёўка | 10 |
| К. Карпюк | 10 |
| У. Славікоўскі | 10 |
| М. Наумовіч (Францыя) | 35 |
| Хв. Кажаневіч (Англія) | 31 |
| Ст Тамара | 20 |
| А. Субота | 20 |
| А. Моніц (Канада) | 100 |
| М. Клакоцкі | 20 |